ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 37 (2595) 17 верасня 1998 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 2000 рублёў.

## ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА



У гэтага свята, якое стала ўжо традыцыйным, невялічкі юбілей: пяты раз у Беларусі адзначаецца Дзень пісьменства. Галоўныя падзеі яго сёлета адбыліся ў горадзе Оршы. Тут пабываў карэспандэнт Яўген ПЯСЕЦКІ і зрабіў са свята фотарэпартаж, заканчэнне якога змешчана на 3-й старонцы нашай газеты.

## АНАТОЛЬ ЛЯЛЯЎСКІ — МАГІСТР ЛЯЛЕЧНАГА МАСТАЦТВА

# МАКСІМУМ ШЧЫРАСЦІ ПРЫ МАКСІМУМЕ АКТЫЎНАСЦІ

Сёлета грамадскасць нашай краіны святкуе 75-годдзе з дня нараджэння галоўнага лялечніка рэспублікі, народнага артыста Беларусі Анатоля Ляляўскага, які ўзначальваў Дзяржаўны тэатр лялек Рэспублікі Беларусь з 1956 па 1986 год у якасці галоўнага рэжысёра.

Урачыстасці па святкаванню 75-х угодкаў А. Ляляўскага распачаліся ў сакавіку вечарынай у Дзяржаўным тэатры лялек. Нядаўна з'явілася шыльда на доме па вуліцы Казлова, дзе жыў рэжысёр.

На жаль, вялікага майстра не стала ў студзені 1995 года...

Гэта чалавек незвычайнага лёсу, яркага таленту, глыбокага разумення лялечнага мастацтва як у сваіх практычных пошуках у рэжысуры, педагагічнай дзейнасці, так і ў навуковых даследаваннях.

На сцэне Дзяржаўнага тэатра лялек Анатоль Аляксандравіч ажыццявіў больш чым 70 пастановак. Многія з іх атрымалі ганаровыя ўзнагароды на міжнародных фестывалях. Гэта такія незабыўныя відовішчы, як "Цудоўная Галатэя", "Званы-лебедзі", "Прыгоды бравага салдата Швейка" і шэраг іншых шыкоўных відовішчаў, якія вылучаліся сваёй акцёрскай ансамблевасцю, рэжысурай, сцэнаграфічным і музычным вырашэннем...




У тэатры вельмі любілі і шанавалі гэтага таленавітага чалавека, бо лічылі, што творчае жыццё побач з Анатолем Аляксандравічам — вялікае шчасце. Была нейкая асаблівая таямніца ў яго зносінах з людзьмі. Вялікі майстар ніколі ні з кім не канфліктаваў. У тэатры ён стварыў незвычайна творчую атмасферу, якая трымалася на чалавечым яднанні ўсіх, хто працаваў над спектаклем. Артысты, мастакі, бутафоры, машыністы сцэны — усе рабілі адну вялікую справу, усе ведалі, што майстар патрабуе ад кожнага прафесіяналізму і ніколі не прыме халтуры...

Анатоль Аляксандравіч — тонкі псіхолаг, чалавек з незвычайным пачуццём гумару, цудоўны апавядальнік, эрудыт, які меў глыбокія веды ў скульптуры, архітэктуры, жывапісе. Калі яго нешта натхняла, ён не баяўся эксперыментаваць і рызыкаваць. Мала ў каго з сучасных рэжысёраў спалучаюцца ўсе гэтыя якасці.

Ляляўскі вызнаваў акцёрскі тэатр і ў той жа час любіў ляльку за яе багатыя магчымасці і здольнасць да алегорыі. Ён вучыў артыстаў, як "ажывіць" ляльку, надаць ёй яркі характар, як праз ляльку весці дыялог з гледачом. На сваёй практыцы ён даказаў, што лялечнаму тэатру падуладна ўсё, што можа падказаць мастаку яго фантазія. Анатоль Ляляўскі

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## ЗНОЙДЗЕНА Ў АРХІВАХ

Сёлета спаўняецца 210 гадоў з дня нараджэння і 150 гадоў з дня смерці Дамініка Манюшкі — вядомага беларускага асветніка і філантропа першай паловы XIX стагоддзя, дзядзькі вядомага кампазітара Станіслава Манюшкі. Роля асобы Дамініка Манюшкі была настолькі вялікая, што ён увайшоў у лік ганаровых грамадзян Польшчы XIX стагоддзя. У 1901 годзе ў Варшаве быў выдадзены "Біяграфічны альбом ганаровых палякаў і полек XIX стагоддзя". Артыкул пра Д. Манюшку напісаў вядомы беларускі гісторык, краязнаўца і публіцыст Аляксандр Ельскі (1834—1916). Пераклад гэтага артыкула прапануецца чытачам. Трэба заўважыць, што аўтар артыкула, шчыры прыхільнік беларускага адраджэння, нідзе не ўпамінае Д. Манюшку як паляка, хоць не ўжывае і тэрміна беларус (які быў тады забаронены). І яшчэ. Маёнткі Д. Манюшкі знаходзіліся на тэрыторыі сучаснага Смалявіцкага раёна на Міншчыне. У Роткаўшчыне захаваліся камяні з надпісамі — кавалкі помніка, які згадваецца ў



артыкуле. Будзе недаравальна, калі рэшткі помніка зніknуць ад нейчай нядбайнасці канчаткова. І калі аднавіць гэты помнік адразу будзе цяжка, то няхай камяні, прысвечаныя Дамініку Манюшку і ягонай Роткаўшчыне, зоймуць пачэснае месца ў ствараемым (наколькі мне вядома) цяпер Смалявіцкім краязнаўчым музеі.

НА ЗДЫМКУ: Дамінік МАНЮШКА (партрэт работы В. Ванькові́ча).

(Заканчэнне на 5-й стар.).

## НА 95-я ЎГОДКІ ПАЭТЭСЫ

# МАЕ ЎСПАМІНЫ ПРА НАТАЛЬЛЮ АРСЕНЬНЕВУ-КУШАЛЬ

Быць у найбліжэйшых адносінах з Натальляй Арсеньневай - Кушаль я мела гонар і шчасце дзякуючы таму, што мой муж Вінцэнт і Натальля Арсеньнева былі сябрамі яшчэ з пачатку 20-х гадоў, з часоў Віленскае беларускае гімназіі. У вершы "Дарагому Вінцуку — сябру юнацтва", прысвечаным ягоным сямідзесятым угодкам жыцьця, Натальля Арсеньнева кажа:

...Вось Базыльянскія муры.
У клясе — цішыня густая...
А мы,
да позьняе пары,
З Табой наш часапіс
складаем...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
І хай Ты Прэзыдэнт цяпер,
Хай муж дастойны,
санавіты, —
а для мяне Ты ўсьцяж,
самперш
— сябрук ціхі й працавіты.
Ня той, што шлях пакут,
дакук
прайшоўшы,
нас тут сяньня госьціць,
а ў шэрым фрэнчыку Вінцук
з тых вечароў,
з той маладосьці...

Сяброўства Натальлі Арсеньневай і Вінцэнта Жук-Грышкевіча трывала да сьмерці Вінцука, калі Натальля Арсеньнева ізноў яму піша:

Памёр... няма... і анідзе
у сьвеце
не пакрыжуюцца ўжо нашыя
шляхі,
хай восень зноў сьпляце нам
залатыя сеці,
хай зазяленяцца узноў
вясновыя лагі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
...як замірыцца з тым, што
ня сустрэцца болей
нам у жыцьці з Табой
ні ў шчасьці, ні ў бядзе!

Раней, у 60-х і 70-х гадох, мне з мужам часта прыходзілася бываць у Нью-Йорку, і не раз мы гасьцілі ў спадарства Кушаляў у Брукліне, а пасьля па дарозе дамоў заязджалі да іх у Рочэстар. Некаторыя сябры жартавалі, што Рочэстар належыць больш да Канады, чым да ЗША. У 1965 годзе пры ЗБК сарганізаванае было Згуртаваньне беларускіх жанчын Канады. Жанчыны запрасілі паэтку Натальлю Арсеньневу быць ганаровай сяброўкай іхняй арганізацыі, на што яна ласкава згадзілася. А вясной 1969 года запрасілі мы — сяброўкі ЗБЖК — яе ў Таронта на прысвечаны ёй і ейнай творчасьці літаратурны вечар. Імпрэза была людная і надзвычай удалай. Бралі ў ёй удзел ня толькі беларусы з розных месцаў Канады, але й ЗША. Былі даклады пра творчасьць паэткі, яна расказала пра сваё жыцьцё, удзельнікі імпрэзы дэкламавалі яе вершы, усе разам пялі ейныя песьні. Зрабілі мы супольную фатаграфію. Паэтка атрымала падарункі — чырвоныя ружы і салодкія прысмакі. Знаёмства й

(Заканчэнне на 7-й стар.).

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*БЕЛАРУСЬ — ЮНЕСКА*

## ВІЗІТ ФЕДЭРЫКА МАЁРА



Са словамі ўдзячнасці за падтрымку Беларусі з боку ЮНЕСКА ў ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы, а таксама ў галіне адукацыі і культуры звярнуўся Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка да генеральнага дырэктара гэтай найбуйнейшай міжнароднай арганізацыі ў час іх сустрэчы 7 верасня. Прэзідэнт Беларусі выказаў надзею, што ЮНЕСКА не пакіне без увагі меры, якія цяпер прымаюцца ў нашай рэспубліцы па буйнамаштабнаму рэфармаванню агульнаадукацыйнай школы і захаванню нацыянальнай культуры.

Аляксандр Лукашэнка заявіў, што наша краіна з'яўляецца прыхільніцай палітыкі, якую праводзіць ЮНЕСКА.

Федэрыка Маёр выказаў удзячнасць Прэзідэнту за сардэчную гасціннасць, з якой яго сустракаюць на беларускай зямлі ўжо другі раз. Ён адзначыў, што напярэдадні трэцяга тысячагоддзя і новага стагоддзя Беларусь, як і многія іншыя дзяржавы, цяпер адчувае шэраг праблем. Разам з тым генеральны дырэктар выказаў захапленне намаганнямі нашай краіны, накіраванымі на міжнароднае супрацоўніцтва, а таксама на выкананне абавязацельстваў, узятых Беларуссю ў ваеннай галіне і іншых сферах, дзе пытанні бяспекі і захавання міру стаяць асабліва востра.

У час трохдзённага візіту ў Беларусь генеральны дырэктар ЮНЕСКА Федэрык Маёр меў таксама сустрэчы з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам, міністрам культуры Аляксандрам Сасноўскім, іншымі дзяржаўнымі дзеячамі і вядомымі прадстаўнікамі навукі і культуры Беларусі. Былі падпісаны важныя двухбаковыя пагадненні.

НА ЗДЫМКУ: Ф. МАЁР гутарыць з народным мастаком Беларусі Арленам КАШКУРЭВІЧАМ у Нацыянальнай бібліятэцы. Тут адбылася прэзентацыя кнігі вершаў Федэрыка Маёра "Быць чалавекам", перакладзенай на беларускую мову. Афармлена яна мастаком Арленам Кашкурэвічам.

*БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ*

## ДАРОГІ ПЕРАКРЫТЫ

У сувязі з фінансавым крызісам у Расіі супрацоўнікам Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі дадзена ўказанне забяспечыць ахову ўнутранага рынку ад несанкцыянаванага вывазу прадуктаў харчавання і іншых тавараў народнага спажывання за межы рэспублікі.

Паводле даных МУС, за апошнія чатыры дні ў рэспубліцы выяўлена 22 факты незаконнага вывазу тавараў у Расійскую Федэрацыю, агульны кошт якіх складае 5 мільярдаў 239 мільёнаў беларускіх рублёў (1 долар ЗША — 50 800 беларускіх рублёў). Днямі ў памежных з Расіяй абласцях Беларусі спынены спробы вывазу ў Расію 10 тон мясной і 23 тон малочнай прадукцыі.

Цяпер падраздзяленні МУС перакрылі ўсе асноўныя дарогі і аб'язныя шляхі, што вядуць з Беларусі ў Расію і іншыя памежныя з рэспублікай дзяржавы. Акрамя таго, у Беларусі створана некалькі міліцэйскіх вышуковых груп, якія працуюць у цягніках, што ідуць у расійскім напрамку.

*ІНІЦЫЯТЫВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»*

## «БЕЛАРУСЬ — 2000 ГАДОЎ»

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" выступіла з ініцыятывай адзначыць у агульнанацыянальным маштабе завяршэнне II тысячагоддзя.

Дзеля гэтага згуртаваннем распрацаваны праект праграмы мерапрыемстваў пад назвай "Беларусь— 2000 гадоў". Сярод прапаноў, выкладзеных у праграме, ёсць і такія, як стварэнне серыі помнікаў для ўшанавання важных гістарычных падзей і выдатных асоб (князям Рагвалоду, Усяславу Чарадзею і Вітаўту, канцлеру Вялікага Княства Літоўскага Л. Сапегу, Т. Касцюшку і К. Каліноўскаму); рэстаўрацыя беларускіх замкаў, храмаў і манастыроў, старажытных гарадзішчаў; стварэнне новых музеяў і музейных комплексаў. Акрамя таго, прапануецца пабудаваць Храм Усіх Святых Зямлі Беларускай у Мінску.

Дзеля рэалізацыі сваёй ініцыятывы Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" ствараецца грамадскі арганізацыйны камітэт, першае пасяджэнне якога, як плануецца, адбудзецца ў канцы верасня гэтага года.

*САДРУЖНАСЦЬ*

## МАЗы Ў ЯРАСЛАЎЛІ

Сваю першую зборачную вытворчасць за межамі рэспублікі адкрыла аўтобусная вытворчасць Мінскага аўтазавода. Яна разгарнулася на плошчах аднаго з былых ваенных заводаў у Яраслаўлі. Папярэдне спецыялісты гэтага прадпрыемства прайшлі навучанне і стажыроўку ў сваіх мінскіх калег.

Як паведаміў дырэктар аўтобуснай вытворчасці МАЗа Генадзь Сінягоўскі, у Яраслаўлі ўжо адбыўся выпуск першага сумеснага першынца — аўтобуса МАЗ-104.

Ён прызначаны для работы на гарадскіх маршрутах.

Да канца года ў Яраслаўлі плануюць сабраць чатыры аўтобусы МАЗ-104. Далейшая праграма іх выпуску будзе залежаць ад попыту, а ён, мяркуючы па папярэдняй колькасці заявак, будзе значным.

*ТВОЙ ДОМ*

## СЕЛЬСКАЯ МОЛАДЗЬ ПЕРАДУСІМ



З пачатку ажыццяўлення ў Беларусі дзяржаўнай праграмы жыллёвага будаўніцтва на вёсцы ў кастрычніку спаўняецца роўна год. Сёлета там плануецца пабудаваць каля 10 тысяч кватэр, або 850 тысяч квадратных метраў агульнай плошчы.

Рэалізацыя праграмы дазволіць палепшыць сацыяльна-дэмаграфічную сітуацыю, якая склалася ў вёсцы. Асобай падтрымкай будзе карыстацца моладзь.

*СЛОНІМСКІЯ ВЫРАБЫ*



На слонімскай фабрыцы "Тэкстыльшчык" канцэрна "Гроднамясцпром" выпускаюць паўшарсцяныя коўдры і коўдры з хімічных валокнаў, прасціны, ручнікі, дзіцячыя суконкі, пакрывалы, іншыя вырабы і габеленавую тканіну. Штомесяц у гэты асартымент уводзяцца новыя назвы. Акрамя Беларусі, прадукцыю фабрыкі з задавальненнем купляюць у Расіі, Украіне, Малдавіі, краінах Балтыі.

НА ЗДЫМКУ: мастак-дызайнер Аляксандр СТАЦЭНКА, начальнік АТК Марыя ЖУКОЎСКАЯ і загадчык асартыментнага кабінета Аляксандр САЛІШЧАЎ з гатовай прадукцыяй.

Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.

*ТАЛЕНТ*

## ДА ЮБІЛЕЮ ЯЎГЕНІІ ЯНІШЧЫЦ

"Дзень вечаровы", "Ясельда", "Пара любові і жалю", "Каліна зімы" — такія прыгожыя назвы ў кніг паэзіі, выдадзеных Яўгеніяй Янішчыц з 1970 па 1987 год. А зараз, у пярэдадзень паўвекавога яе юбілею, выдавецтва "Вышэйшая школа" накладам 21 735 асобнікаў выпусціла ў свет "Выбранае" Я. Янішчыц. Аўтар прадмовы ("Дзіўная птушка") — Марыя Панкова. Вось што яна, у прыватнасці, піша: "З радасцю былі сустрэты чытачамі ўсе яе кнігі! Першая — "Снежныя грамніцы" (1970) — сталася сапраўднымі грамніцамі ў паэтычным свеце Беларусі! Кніга засведчыла: у беларускую паэзію прыйшла яркая, самабытная паэтэса з глыбока нацыянальным мысленнем, з выразна акрэсленай, нягледзячы на зусім юны ўзрост, грамадзянскай пазіцыяй. Талент Яўгеніі Янішчыц, нібы з глыбокай крыніцы, біў, струменіў у кожным яе радку, у кожным слове, кожнай страфе!"

Талент, паэзія Яўгеніі Янішчыц працягваюць крынічна ўзбагачаць нас і сёння.

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

НА ПАЧАТАК ЖНІЎНЯ ў Беларусі было зарэгістравана 976 тысяч 488 легкавых аўтамабіляў, якія належаць індывідуальным уладальнікам. У пераважнай большасці — гэта "патрапаныя" іншамаркі. Да канца 1998 года, бадай, будзе зарэгістраваны мільённы прыватны аўтамабіль.

7 ВЕРАСНЯ НА 200-м КІЛАМЕТРЫ аўтастрады Гомель — Кобрын у аўтамабільнай катастрофе загінулі чацвёра супрацоўнікаў Петрыкаўскага міжраённага аддзела Дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў. Вінаваты ў трагедыі, відаць, КАМАЗ з прычэпам, які выехаў на паласу сустрэчнага руху.

У ЭКСПЕРЫМЕНТАЛЬНЫМ ТАВАРЫСТВЕ "Целяханскае" адбыўся семінар, на якім абмеркаваны праблемы захавання біялагічнай разнастайнасці нашай краіны. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі Каралеўскага таварыства Вялікабрытаніі, Балгарскага таварыства аховы птушак і нашага таварыства "Ахова птушак Беларусі".

ЗА АПОШНІЯ ДЗЕСЯЦЬ гадоў плошча дуброў у Беларусі вырасла амаль на 50 тысяч гектараў. Аднак у агульным аб'ёме лясных угоддзяў яна складае пакуль 3,6 працэнта. Дзяржаўнай праграмай прадугледжана далейшае аднаўленне лесу да 2015 года. У Беларусі трэба будзе ў цэлым павялічыць пасадкі дубоў да 11 працэнтаў. Гэта значыць, штогод саджанцы дуба будуць высаджваць прыкладна на 4 тысячах гектараў.

НА ПРАЦЯГУ ДВУХ тыдняў у Круглянскім раёне на Магілёўшчыне пройдзе пленэр, прысвечаны памяці выдатнага мастака-перасоўніка Мікалая Неўрава, які большую частку свайго творчага жыцця правёў у ціхай круглянскай вёсачцы Лыскаўшчына і дзе спачывае яго прах. Акрамя беларускіх, у пленэры прымаюць удзел расійскія, украінскія мастакі, прыехалі такасама мастакі з краін Балтыі і далёкага замежжа.

"МЕДЫЦЫНА-98" — гэта VI міжнародная спецыялізаваная выстава, што адкрылася ў сталіцы Беларусі. 13 вядучых краін свету — Расія, Германія, Данія, Францыя, Японія, Іран і інш. — прымаюць у ёй удзел. У першы ж дзень выставу наведалі супрацоўнікі многіх зарубежных дыпламатычных і гандлёвых прадпрыемстваў у Мінску.

ЗАХАВАЦЬ НАВУКОВЫЯ АБ'ЕКТЫ, якія складаюць нацыянальны набытак краіны, і забяспечыць іх належнае функцыянаванне дапамога адпаведны Дзяржаўны рэестр. Паводле Указа Прэзідэнта Беларусі, рэестр ствараецца з 1 студзеня 1999 года.

ДЗІЦЯЧЫ ФОНД ААН ЮНІСЕФ пры садзейнічанні аддзела па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Міністэрства адукацыі Беларусі паставіў гуманітарную дапамогу выхаванцам Уздзенскай санаторнай школы амаль на 8 тысяч долараў.

У гэтай школе папраўляюць здароўе і вучацца дзеці, якія захварэлі ў выніку выбуху на Чарнобыльскай АЭС.

ПОЛАЦКА-ГЛЫБОЦКАЯ ЕПАРХІЯ атрымала ў дар ад Полацкага гарадскога аддзела Упраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Віцебскай вобласці некалькі ікон. Гэтыя іконы былі затрыманы і канфіскаваны на беларуска-латвійскай мяжы.

*НАВІНЫ СПОРТУ*



Навапалачанін Аляксей ЛЯСНІЧЫ стаў бронзавым прызёрам чэмпіянату Еўропы сярод юніёраў па скачках у вышыню.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

«ПРАБЛЕМА» ТЭЛЕФОНАЎ-АЎТАМАТАЎ

# МІЖНАРОДНЫЯ ТАКСАФОНЫ — КАЛІ?

**Не так даўно разам з тэлефоннымі карткамі шматразовага карыстання ўвайшлі ў абарачэнне і аднаразовыя. У бліжэйшай перспектыве — з'яўленне на вуліцах Мінска міжнародных таксафонаў, з якіх па тэлефонных картках можна будзе званіць у любыя гарады свету.**

Не трэба быць старажылам, каб помніць: да 1995 года некаторы час гарадскімі тэлефонамі-аўтаматамі можна было карыстацца зусім бясплатна. Аднак нават у той перыяд, калі ўскрыццё тэлефонаў-аўтаматаў не несла ніякай матэрыяльнай выгады, колькасць адарваных трубак не змяншалася і працэнт іх паломак з хуліганскіх памкненняў быў даволі высокі. Тым не менш меркавалася, што ўвядзенне тэлефонных картак знізіць колькасць нападаў на тэлефоны-аўтаматы ў параўнанні з тым часам, калі ў прорразь ляцелі "жывыя" грошы. Але на практыцы ўсё атрымалася зусім не так. Аказалася, што шматразовыя карткі можна зараджаць зноў і зноў, аплачваючы толькі сам час, а не картку. Пачалося сапраўднае паляванне на пластыкавыя карткі, для чаго нярэдка з аўтамата вымалася "начынка", і ўстаўленая ў яго картка лёгка праваньвалася ў пустую каробку. Тэлефонным піратам заставалася толькі адкрыць яе і сабраць карткі, якія потым перазараджаліся і рэалізоўваліся. Гэтым бізнесам займаліся цэлыя групоўкі, членаў якіх нярэдка лавілі і нават судзілі. З 1995 па 1996 год практычна кожны з пяці тысяч размешчаных у Мінску таксафонаў быў разбіты. На рамонт ішлі астранамічныя сумы...

Аднак перад тым як увесці ў абарачэнне аднаразовыя тэлефонныя карткі, былі праведзены маркетынгавыя даследаванні для вызначэння ўзроўню папулярнасці сярод насельніцтва выкарыстання электронных пластыкавых карт для таксафонаў агульнага карыстання мясцовай сеткі. Цікава, што іх правядзенне было даручана не прафесійным сацыёлагам, а школьнікам — навучэнцам вучэбна-вытворчага камбіната Ленінскага раёна Мінска, чыёй спецыялізацыяй з'яўляецца маркетынг і эканоміка.

У час даследаванняў на пытанні анкеты адказалі каля трох тысяч чалавек, узрост якіх вагаўся ад 14 да 68 гадоў. Даследаванне выявіла, што тэлефоннымі карткамі карыстаецца большая частка насельніцтва, і таму зацікаўленасць у іх вялікая. На пытанне: "Ці карыстаецеся вы тэлефоннымі карткамі?" "так" адказала 62 працэнты апытаных, і толькі 12 працэнтаў адказалі "не". Пры гэтым любы іншы спосаб аплаты — жэтоны, манеты — у тэлефонных размовах выбралі толькі 18 працэнтаў апытаных. Гэта можна лічыць вынікам таго, што ў большасці карыстальнікаў хаця б зрэдку, але ўзнікаюць праблемы пры выкарыстанні картак. Найбольш скаргаў было на тое, што карткі беззваротна праваньваюцца ў таксафоны, з іх выпадаюць электронныя чыпы, а рэальны час размовы не адпавядае наміналу, указанаму на картцы. Даволі распаўсюджаным было пажаданне карыстацца шматразовымі карткамі, хаця, як паказалі даследаванні, большасць апытаных схіляецца да пераходу на карткі аднаразовай зарадкі. Цікава, што 40 працэнтаў насельніцтва не мае інфармацыі аб абменных пунктах, і ў выніку скарыстаныя карткі проста выкідваюцца.

Найбольшай папулярнасцю ў насельніцтва карыстаюцца тэлефонныя карткі малога наміналу, сярод рэальна існуючых гэта 60-мінутныя карткі, было таксама многа пажаданняў аб увядзенні картак номіналам 15 і 30 мінут. Рэспандэнты выказалі вялікую зацікаўленасць ва ўстанаўленні ў горадзе міжнародных таксафонаў (59 працэнтаў апытаных). Праўда, многія выказалі апасенне, што, калі такія таксафоны не будуць мець здавальняючай якасці і карткі да іх будуць з ранейшымі недахопамі, ад масавага ўкаранення такіх таксафонаў лепш устрымацца.

Вынікі даследаванняў паказалі своечасовасць і мэтазгоднасць увядзення аднаразовых тэлефонных картак. Па словах першага намесніка генеральнага дырэктара Рэспубліканскага аб'яднання "Белтэлеком" Мікалая Крукоўскага, пасля іх увядзення патрэбнасць у картках рэзка ўзрасла, аднаразовыя карткі, што скончыліся, здаюцца, і ў абмен выдаецца наступная аднаразовая картка за вылікам сумы 10 тысяч беларускіх рублёў, што складае кошт самой карткі. На сёння "Белтэлеком" рэалізуе ў месяц 300 тысяч картак, аднак, як паказвае практыка, гэтага мала.

Што тычыцца магчымасці пагаварыць з вулічнага тэлефона-аўтамата з іншымі краінамі, то гэтая перспектыва тармозіцца пасіўнасцю айчынных прамысловых прадпрыемстваў. Першая партыя універсальных таксафонаў, якія дазволілі б гаварыць з любым пунктам свету нават пры дапамозе існуючай тэлефоннай карткі, ужо павінна была паступіць заказчыку. Аднак фірма "Лёс", якая належыць Міністэрству сувязі і размешчана ў пасёлку Барань Аршанскага раёна, павінна была іх выпусціць па распрацоўцы дзяржаўнага прадпрыемства "Агат", а вырабіла толькі доследную партыю. Частка універсальных таксафонаў тут жа разышлася па абласцях, некаторыя ўстаноўлены на перагаворным пункце на вуліцы Чкалава, 1, дзе новыя апараты праходзяць выпрабаванні, па выніках якіх ужо дапрацавана схема. Да абяцанага тэрміну 1 чэрвеня аўтамыты гатовы не былі, да 1 жніўня — таксама, засталася надзея, што першая партыя паступіць у верасні. К канцу года будзе атрымана каля чатырохсот універсальных тэлефонаў-аўтаматаў, хаця "Белтэлеком" спадзяваўся да гэтага тэрміну атрымаць не менш сямісот. У першую чаргу аўтаматы ўстановяць у людных, добра асветленых месцах, дзе менш шансаў, што новыя таксафоны хутка зламаюць, бо кошт кожнага з іх будзе складаць каля 1 тысячы долараў ЗША. Універсальныя таксафоны ад звычайных будуць адрозніваюцца нават сваім колерам — ён будзе нябесна-блакітным. Да аўтаматаў спатрэбяцца і новыя карткі з вялікім аб'ёмам памяці, бо па картцы, разлічанай на 120 мінут размовы ў Беларусі, з Амерыкай пагаварыць удасца не больш 15—20 секунд. Акрамя таго, паколькі размова ідзе пра больш буйныя сумы, картка павінна быць лепш абаронена.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

КАЛІ ЧАЛАВЕКУ ЗА СТО...

# ЖЫЦЦЁ ВЫПРАБОЎВАЛА НЕ РАЗ



Сто два гады споўнілася нядаўна адной з найстарэйшых жыхарак Жлобінскага раёна Аляксандры Закрэўскай. Свой век яна дажывае ў роднай вёсцы Чарцеж, што на тэрыторыі Чырвонабярэжскага сельсавета, хаця былі такія перыяды, калі і не верылася ўжо ёй, што ўбачыць родную вёску.

Прычын для такога сумнення было нямала, у тым ліку ссылка ў Сібір, вайна. Выслалі ж Аляксандру Генрыхаўну з Беларусі за тысячы кіламетраў у халодны і галодны край разам з усёй сям'ёй — мужам, сямігадовым сынам і пяцігадовай дачкой у 1930 годзе. Усяго і віны ў іх было, як, дарэчы, і ў многіх іншых аднавяскоўцаў, што мелі яны ўласную моцную гаспадарку. Тое, што нажыта гэта было цяжкай штодзённай працай, нікога тады не цікавіла. Узялі ды і раскулачылі, а хату і ўсё дабро разрабавалі.

Аляксандра Генрыхаўна, нягледзячы на свой паважны ўзрост, яшчэ добра можа гаварыць і мае добрую памяць. Яна ж сама і засведчыла нам:

— Выслалі нас у дзікае неабжытае месца. Першыя пяць тыдняў прыйшлося жыць проста ў лесе. Але неяк абжыліся, жыць жа трэба было. А жылося вельмі цяжка, есці не было чаго. Памятаю, падойдуць да мяне дзеткі і гавораць: "Мама, дай нам хоць колькі крошак хлеба, мы не будзем іх есці, толькі патрымаем у роце"... І за што нам былі такія мукі?..

Шэсць гадоў цягнулася гэтая ссылка, потым сям'і Закрэўскіх дазволена было вярнуцца на радзіму. Але ў родную вёску адразу ехаць пабаяліся, на той час такіх, як яны, "ворагаў калгаснага жыцця" маглі проста расстраляць. Спыніліся пад Гомелем, дзе іх не ведалі.

Неўзабаве нарадзілася яшчэ адна дачка — Людміла (яна зараз жыве разам з Аляксандрай Генрыхаўнай). Але сямейную радасць хутка азмрочыла вайна, якая забрала сына Ігната (ён загінуў на фронце). Ледзьве ўцалелі пад нямецкімі бамбёжкамі і астатнія члены сям'і. Ратуючыся ад агню, Закрэўскія вырашылі ў 1943 годзе вярнуцца ў Чарцеж, дзе было значна спакайней.

Пасля вайны Аляксандра Генрыхаўна ўсё-такі трапіла ў мясцовы калгас. Хаця да самай пенсіі працавала сумленна, зарабіла ад дзяржавы на старасць, як гаворыцца, капейкі. Але сёння наша субяседніца ні на кога не скардзіцца, успрымае сваё жыццё, як наканаванне лёсу. Няма ўжо даўно ў жывых мужа Валянціна Ігнатавіча, памерла і старэйшая дачка Стафанія. Ды радуюць Аляксандру Закрэўскую шматлікія ўнукі і праўнукі.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**

**Фота Мікалая СЕМЯНЦА.**

# ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА




**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**Пачнем з... надвор'я. Не песціла яно сёлета. А тут свята — дзень як па заказу: сонечна, цёпла. Можа і таму ў знакамітай Оршы сабралася многа людзей. Акрамя афіцыйных асоб — прадстаўнікоў улады рэспублікі і Віцебскай вобласці, пісьменнікаў, журналістаў, сюды з'ехаліся шматлікія госці не толькі з Беларусі, але і з іншых краін, у асноўным з былога Саюза. Такога наплыву народа, як адзначалі самі гаспадары горада, Орша яшчэ не бачыла.**

**Што ж было на свяце? Вельмі многа ўсяго: пісьменнікі (а сярод іх і Сяргей Законнікаў, і Уладзімір Някляеў, і Адам Мальдзіс — усіх і не пералічыць) чыталі свае вершы, шчодра раздавалі аўтографы, дзяліліся творчымі задумамі; журналісты зрабілі выставу газет, у асноўным беларускамоўных, праводзіліся розыгрышы латарэй, артысты цешылі прысутных добрымі песнямі, жартамі, а гандляры прапаноўвалі пакупнікам тавары, сярод якіх пераважалі вырабы вядомых народных майстроў, зробленыя з саломкі, лазы, гліны,традыцыйныя беларускія вышыванкі...**

**З сёлетняга года Дзень беларускага пісьменства набывае афіцыйны статус. А ў наступным яно пройдзе ў не менш знакамітым горадзе Беларусі Пінску.**



**НА ЗДЫМКАХ: мемарыяльная дошка, прысвечаная беларускаму кнігадрукару Спірыдону СОБАЛЮ; было аб чым пагутарыць старым знаёмым манашцы ЛЮДМІЛЕ і дырэктару дзіцячай нядзельнай школы з вёскі Тырнава Марыі ДЗЯРКАЧ; на адной з вуліц Оршы ў час свята; аўтографы раздае рэжысёр Валянцін ЕРМАЛОВІЧ.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**





НАМ ПІШУЦЬ

# ДАБРАЎЛЯНЫ СЁННЯ



У "Голасе Радзімы" №№ 5—7 за 1997 год быў надрукаваны навуковы артыкул Генадзя Кісялёва "У Дабраўлянах, прыстанку муз, у 1863 годзе..." Ён мяне вельмі крануў. Шмат чытала пра Смаргоншчыну, была ў Залессі, некалькі разоў у Кушлянах, Жупранах, Солах. Тут нарадзілася шмат людзей, вядомых не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі: М. Агінскі, Ф. Багушэвіч, М. Кульбак, У. Някляеў. Падчас летніх вакацый вырашыла зрабіць вандроўку ў былыя маёнткі Дабраўляны, Путуліна, якія знаходзяцца кіламетраў за дзесяць ад вёскі, дзе жыве мая мама. Мясціны маляўнічыя, прыгожыя вакол краявіды. Недалёка працякае рака Вілія, тут яна даволі шырокая і глыбокая, перабіраюцца з аднаго берага на другі на чаўнах, да вайны быў моцны высокі мост, палі засталіся да гэтага часу, а мост у час другой сусветнай вайны спалілі партызаны. Старажылы вёскі Рымшыненты не могуць растлумачыць, чаму яго спалілі, немцаў не было, цэнтральнай дарогі — таксама. На беразе ракі быў некалі габрэйскі могільнік, цяпер на тым месцы растуць сосны, маліна, крапіва, шмат чаромхі. Далей размешчана вёска Нястанішкі, побач Путуліна — былая рэзідэнцыя Габрыелы Гюнтэр. У Путуліне яна прымала У. Сыракомлю, тут бываў В. Дунін-Марцінкевіч ("Голас Радзімы" № 7, 1997 г.). Сёння ў Путуліне засталіся рэшткі парку, што быў у XIX стагоддзі, сажалка, былы панскі дом, менш дзесяці двароў. Побач з Путулінам каплічка, касцёл, пабудаваны ў пачатку XX стагоддзя. У ліпені 1998 года Нястанішская парафія адзначала 500-годдзе, было вельмі ўрачыста, шмат святароў прыехала, біскуп з Гародні, і ўпершыню пасля амаль пяцідзесяцігадовага перапынку загучаў у касцёле арган. Каля касцёла знаходзіцца вялікі цагляны будынак, у якім была васьмігадовая школа, зараз ён пустуе, вакол пустазелле расце, вокны без шкла, нікому не патрэбны. Каб знайшоўся добры гаспадар, можна зрабіць летнік для дзяцей. Ад Нястанішак трэба праехаць Лылацкі бор, потым калгасныя палі (на якіх чамусьці палілі салому сёлетняга ўраджаю), збоку застаецца вёска Лылойці — цэнтр калгаса "Рассвет", раней быў імя Жданава. У Лылойцах нарадзіўся беларускі пісьменнік Артур Цяжкі, цяпер яго імя носіць Лылойцінская сярэдняя школа, а пахаваны ён на могілках у Нястанішках. Аб родных мясцінах, людзях ён пісаў у сваіх зборніках "Сустрэча пасля вясны" (1980 год), "Пара блакітных дажджоў" (1982), "Дзе мой дом?" (1986). І далей, на скрыжаванні дарог (адна ідзе на Лылойці, Смаргонь, другая — у мястэчка Свір), на ўзгорку размешчана вёска Дабраўляны. Перад ёю вялікі калгасны сад, удалечыні відаць вежы касцёла ў Засвіры.

Звычайная, запушчаная вёска, як і многія ў Беларусі, раней тут быў цэнтр саўгаса "Дабраўляны", пасля аб'ядналі з калгасам імя Жданаў. У цэнтры вёскі кароўнік, як і ў многіх беларускіх вёсках. Побач каплічка асвячоная, кожную нядзелю прыязджае з Свіра ксёндз, праходзяць набажэнствы. Калі я падышла, дзверы былі адчынены, хоць і быў будні дзень. Кабета сталага веку лічыла грошы, была імша, ахвяруюць для касцёла па тысячы, толькі адна была дваццатка. Памяшканне невялічкае, пяць гадоў назад на першым паверсе знаходзілася млячарня, на другім — жыла адзінокая жанчына. Дзякуючы намаганням свірскага ксяндза, кіраўнік калгаса С. Шчасны аддаў будынак вернікам. Ксёндз за сем гадоў службы ў Свіры вельмі шмат зрабіў для вернікаў навакольных парафій, ён быў яшчэ і добры будаўнік, арганізатар, яго любілі дзеці. Але ўсім цяжка дагадзіць, некаму нешта не спадабалася, пачалі пісаць скаргі, ён з'ехаў у Польшчу.

У 1940 годзе жыхароў вёскі Дабраўляны вывезлі ў далёкі Казахстан, мала каму пашчасціла вярнуцца, людзі тут жылі заможна. Мне кабета распавяла шмат цікавага пра вёску, яе жыхароў. За Польшчай, да 1939 года, валодаў маёнткам пан Хамінскі. Яна дзяўчынкай бегала ў палац глядзець скульптуры, дарэчы, дабраўлянскі палац, апісаны ў артыкуле Г. Кісялёва, разбурылі ў савецкія часы, у 60-я гады. Мой дзядзька тады вярнуўся з войска, працаваў у калгасе трактарыстам, ён усё гэта бачыў. З цэглы пабудавалі кароўнік, вяскоўцы бралі яе для кладкі печаў, бо яна моцная, выклалі дарожкі каля кароўніка. У капліцу паставілі племяннога быка, у адну з начэй капліца разбурылася і забіла быка. На азін бок вуліцы знаходзіцца кароўнік, на другім — старажытны парк з векавымі дрэвамі, у цэнтры парку — фундамент былога палаца, праз парк працякае невялічкая рэчка, побач глыбокая сажалка. Гэты парк "памятае" В. Дуніна-Марцінкевіча, У. Сыракомлю і іншых знакамітых людзей, якія прыязджалі з Вільні, Парыжа. Да 1939 года, распавядала кабета, у парку былі дарожкі, паабапал раслі кветкі, у сажалцы лавілі рыбу. З панскіх часоў у Дабраўлянах засталося некалькі будынкаў, у адным з іх стаяць калгасныя каровы, у другім размясцілася пачатковая школа, у трэцім — сельская бібліятэка. Маладая настаўніца нічога не ведае, якія знакамітыя былі Дабраўляны ў XIX стагоддзі. А раней тут жылі Сапегі, Хамінскія і іншыя.

Далей за вёскай Дабраўляны, каля лесу, некаму паказалася Маці Боская, там нядаўна пабудавалі невялічкую капліцу, але я туды ўжо не пайшла. Гэтыя мясціны цудоўна апісаў у сваёй кнізе "Па Віліі" Ч. Кудаба.

**Леакадзія МІЛАШ.**

г. Вільня.

**НА ЗДЫМКУ:** вежы касцёла ў Нястанішках.

**Антон ПАДДУБІЧ**

# ПАДАРОЖЖА ПА ВЯЛЕЙШЧЫНЕ

— Ну, але ж усё ж такі асталіся яны, дый прыбавілася новых паноў — асаднікаў, у аднаго з якіх я меў няшчасьце сёньня начаваць. Ці ж з імі не гандлюеце? — пытаюся.

— Пфэ! Што вы кажаце? Хіба ня ведаеце гэтых новых "паноў"? З імі часам вядзець гандаль растаранчык у Даўгінаве. Ён часта ад іх добра зарабляе, але ня я. Часам удаецца зарабіць й вашым сялянам, якія ўпахваюць ім зямлю. Гэты "пан" йдзе, скажам, у чацьвер на торг. Там ён маець "справы". Пасьля, разумеецца, гэтыя справы "замацоўваюць". Пасьля "замацаваньня" слабеюць ногі, дык застаецца начаваць. Назаўтра баліць галава. Трэ' "палячыцца", а пасьля ізноў "слабеюць ногі" і г. д. А тым часам Іван у яго сабе "ўпахвае", — сьмяецца Ёсяль. — І разумна робіць, бо дармавому каню ў зубы не глядзяць. Дарма дасталася ім зямля — за дарма й пойдзе, — дабаўляе карчмар. — Вы кажаце, што сёньня начавалі ў аднаго з гэткіх "паноў". Я ведаю, у каго. Бедная кабеціна тамака жывець. Больш двух тысячаў рублёў золатам, разумееце, золатам — даў бацька пасагу. А бачылі, якое там жыцьцё? Пфэ! — дый што там гаварыць, — махнуў Ёсяль рукой.

— Ну, бывайце здаровы!

— З Богам! — адказвае Ёсяль. — Ідучы назад, зайдзіцеся да мяне.

— Бадай, — адказваю, — ня будзе па дарозе.

Мястэчка Даўгінава. Завуць яго чамусьці па-польску "Dołginów". Перад сусьветнай вайной Даўгінава было рухлівае й даволі багатае. Лучыла яно гандлёвыя шляхі Менск й Барысаў, але цяперашняя граніца Саветаў адрэзала гэную лучнасьць, і сёньня Даўгінава мёртвае і абяднеўшае мястэчка. Згалелі ня толькі гандляры, але й даўгінаўскія сяляне, якія даўней мелі тутка даволі добрыя заработкі.

Даўгінава — даволі вялікая мясьціна й налічвае да 4 тысяч насельніцтва. Шмат мае мураваных дамоў, але пахваліцца імі ня можыць, бо большасьць іх выглядае шпэтна. Болей жа дзяраўляных дамоў, якія ў большасьці належаць да хрысьціян. У цэнтры мястэчка лучыцца ўвесь даўгінаўсці гандаль. Тутака крамы, склады, "чайныя", пякарні, мясныя і ўсё. Тутка на вывесках прачытаеш аб "fokciowych"[1], "drobnych" й буйных, і "roznych" (мабыць, różnych) таварах. Усяго тутка ёсьць, толькі няма грошы. Сёньня няма "кірмашу", дык свабодна можна разгледзіць мястэчка й пазнаёміцца з ягонымі жыхарамі.

Старынны касьцёл як выглядам сваім, так і местам палажэньня ня вельмі цешыць вока. Крамы й крамкі блізу яго закрываюць, і трудна яго дагледзіць. Царква ж, паложаная за мястэчкам, йшчэ здалёку кідаецца ў вочы сваім белым мурам й зялёнаю страхою. Відаць, рупяцца тут пра[ва]слаўныя беларусы аб сваім доме малітвы. Кідаецца тут у вочы новы вялізарны, йшчэ ня выканчаны, дзяраўляны будынак. Гэта будзе, як мне кажаць, "універсальны" дом. Будуець яго воласьць й афіцыяльна завецца ён "dom ludowy"[1]. Дзеля "камэрцыі" ж хочаць перавясьці пад ягоную страху ўсе, якія ёсьць ў Даўгінаве, дзяржаўныя й самаўрадавыя ўстановы. Заместа плаціць за памешканьні прыватным асобам, няхай, кажаць, плацяць сваім. Словам: свой да свайго. Толькі ня ведама, калі гэта зьдзейсьняць, бо йшчэ ня выканчаны. І калі яго выканчаць — гэтак сама ня ведама, бо сялянскія складкі на будоўлю гэтага дому, дый шчэ' "універсальнага", неяк туга йдуць.

Маець Даўгінава два паравыя млыны. Адзін жыдоўскі, другі панскі — хрысьціянскі! Хаця й канкуруюць між сабою, але сваім каровам і сьвіням мукі з кашоў чужога дабра маюць даволі. Ёсьць тутка тры лекары, сярод якіх ёсьць "новабагацкі", маючы ўжо свой собскі прыгожы дом і... самаходзік. І лекары вядуць між сабою канкурэнцыю, але пакуль што не бядуюць, дый пакуль людзі будуць хварэць — бяды мець ня будуць.

Як і ў кожным мястэчку, ёсьць тутака й польскія арганізацыі. Ёсьцека тут "стральцы", розныя "kofki" і "kofki"[2], дзейнасьць якіх, як блізу і ўсюдых, праяўляецца ў скоках і гульнях. Пашыраецца й тутака палёнізацыя праз школу і другімі спосабамі, але ня мае папулярнасьці. Што даўгінаўскія дзяўчаты, спацыруючы гавораць па-польску, дык не дзеля таго, што ўжо апалячыліся, а больш дзеля моды й форсу. Але калі такая красуня запозна з'явіцца са "спацыру" дамоў, дык яе даўгінаўская маці "роднымі словамі" хутка здыймае з яе гэтыя "форсы". Дзяцюкі гэтак сама любяць часам, крыху падвыпіўшы, фарсануць й памоднічаць. І яны, фліртуючы з дзяўчатамі, часам ужываюць польшчыну, але так — дзеля моды, як носяць дзеля моды шырокія — як бабскія йсподніцы — нагавіцы і "голіфэ", ці як тут, жартуючы, кажаць — "голы пфэ". Але дома ўжо, у хаце сваіх бацькоў, гэты модны дзяцюк не адважыцца пальшчануць, тут бацька не пераносіць гэтае "моды".

А як з вёскамі, якія пад Даўгінавым? У! — кажуць мне, — там крэпкія беларусы, асабліва, дзе праваслаўныя.

Калі нашыя красуні й дзяцюкі, дзеля сваей малой сьведамасьці, часам й гавораць па-польску, дык хаця рэч і непажаданая, але зразумелая. Калі ж, як казалі мне, жыўшы тут даўжэйшы час, чалавек, ведамы ўсей даўгінаўскай каталіцкае парафіі як беларус, пры сустрэчах з сялянамі ў мястэчку стараўся больш гаварыць па-польску — рэч ужо не зразумелая.

Што даўгінаўскія жыды, як урэшце і іншыя, не навучыліся шанаваць нашае мовы да гэтага часу, мо' пераканаўся ня толькі я адзін. І мне здаецца, што варта было б ім прыпомніць, што да адвечнага гаспадара гэтых зямель, ад якога на працягу гісторыі не адчувалі і не цярпелі крыўдаў і чыім коштам багаціліся, трэ' адносіцца з толеранцыяй й пашанаю. Перамену сваіх адносін няхай распачнуць цяпер, каб гарманійнае сужыцьцё Беларускага й Жыдоўскага народаў нічым ня было ў будучыне засмучана. Але аб гэтым á propos — між іншым. Цяпер жа хачу прадставіць цалком узятыя з жыцьця жыдоўска-беларускія адносіны.

І мястачковыя жыды, цягнутыя сваймі павадырамі ў бок польскае санацыі, стараюцца падчыркваць сваю лёяльнасьць да цяперашняе Польшчы. Калі вы апрануты ў чорны, хоць і падзёрты каптан, дык крамнік, услужліва падаючы крэсла, загаворыць з вамі па-польску. Хаця цэлае, але шэрае саматканае бурцы й жакетцы крэсла не падаецца. У паняцьці мястэчкавага жыда, дый ня толькі мястэчкавага, — чорная вопратка й капялюш — сынонімы, як яны кажаць, "дэлікатнасьці". "Дэлікатнасьць" жа — сынонім польскасьці. У саматканае вопратцы — мужык, хам, ніжэйшы — наш беларус, і з ім ня трэба цырамоніцца й лічыцца. У чорнае вопратцы й капялюшы — "дэлікатны", вышэйшы — пан шляхціц, з якім ужо, асабліва цяпер, ня толькі трэ' лічыцца, але й выказаць гатоўнасьць да ўслугі й да пашаны.

Заходжуся да знаёмага жыда, які гандлюець "дробнымі" й "буйнымі" таварамі.

— Добры дзень, купец!

— Добры, нядобры — але хай будзе так, — адказвае крамнік. — Дый які добры, калі сяджу, вышчырыўшы зубы, ад раніцы і ніхто йшчэ ня даў таргаваць. А мо' вы дасьцё мне зарабіць?

— Дам, — адказваю. — Пачок махоркі і серчыкаў.

— І больш нічога?

— Не. Дый што у яго можна купіць, — думаю. — Крыху локцёвых тавараў, махоркі, гузікаў і йшчэ нейкае драбязы. Але адкуль гэта нясець нейкім нязносным смуродам? Пачынаю разглядацца па кутках, але нічтога ня бачу падазронага. Ужо сабраўся запытацца аб прычыне смуроду крамніка, як уваходзіць селянін у лапцях і, зварачваючыся да жыда, пытаецца: — Маеш танейшую? — Чаму не — ёсьць. А колькі табе трэба? — Чатыры. — Цэлых? — Ага. — Пасуду маеш? — Не, пералі ў сваю. — Будзе даражэй. — Вярну назад. — Не прымаю. — Ну, дык як будзе? — Як хочаш. Уважліва прыслухоўваюся да гэтае мала зразумелае гутаркі. Сялянін чухаецца за вухам і нешта мяркуець. — Ну, давай, — рашае ён. Жыд зьнікае ў бакоўцы і хутка выносіць адтуль чатыры літры разліўнога дэнатурату. Калі вышаў сялянін, запытваюся ў крамніка, ці добра ў яго йдзе гэты "тавар", бо бачу, што чалавек купіў аж чатыры літры. — А нічога сабе, — адказвае жыд. — Паглядзелі б, колькі йдзе гэтага тавару ў чацьвер — у торговы дзень. Яны ж, — тутка жыд скрывіў вусны, — любяць гэты "дыкалон", як мухі мёд.

— А патэнт на продаж гэтага, як вы кажаце, "дыкалону" не патрэбен?

---

[1] Мануфактурных.

[1] Народны дом.

[2] Гурткі.

---

Працяг.
Пачатак у № № 33—36.

# ДАМІНІК МАНЮШКА (1788–1848)

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Гэты вядомы грамадзянін, чалавек выключнай цноты, навукі, любові да краю, сапраўды вялікага характару, смела можа быць параўнаны са Сташыцам[1], Касцюшкам, Ігнатам Патоцкім[2] і іншымі патрыётамі, якія ва ўсе часы ўвасаблялі гонар народа і ягоны самы ўзнёслы духоўны зачын.

Нарадзіўся ён 6 ліпеня 1788 года ў Смілавічах, быў другім сынам Станіслава Манюшкі[3] герба Крыўда, вайсковага суддзі Вялікага Княства Літоўскага, і Евы з Вайніловічаў, дачкі наваградскага ротмістра. Людзям такой велічы звычайна бывае душна і нявесела сярод сваіх суседзяў, бо іх сэрцы і думкі, перасягаючы людскі натоўп на цэлае неба, не могуць быць адразу зразуметы і ацэнены, таму, працуючы пры жыцці дзеля дабра суайчыннікаў, яны маюць багата горычы і расчараванняў, ажно пакуль наступнае пакаленне не ўзнясе ім бяздушныя помнікі з мармуру і медзі. Якраз такой гульнёй наравістага лёсу (вельмі звычайнага ў нашым своеасаблівым грамадстве) і быў Дамінік Манюшка, і за гэта ён яшчэ болей заслугоўвае найвышэйшай увагі нашчадкаў.

Адораны ад прыроды выдатнымі здольнасцямі і рэдкімі вартасцямі сэрца, ён атрымаў пачатковую адукацыю дома пад наглядам адукаванага бацькі, затым



навучаўся ў шляхецкім канвікце ксяндзоў-місіянераў у Смілавічах, і ўрэшце — у Віленскім універсітэце, які, здаецца, скончыў ужо пасля смерці бацькі (1807) каля 1810 года ў ступені доктара абодвух правоў і, асеўшы ў прызначаных для яго са смілавіцкай спадчыны маёнтках Роткаўшчына і Пацічола, як сапраўдны гуманіст у прамым значэнні гэтага слова з энтузіязмам аддаўся справе радыкальнага паляпшэння побыту сваіх сялян і ўздзеяння праз гэта на грамадскую думку.

Манюшка рана заўважыў глыбокую прычыну ўпадку грамадства ў прыгнёце народу, прычым гэты цяжар дайшоў тады ў мясцінах, дзе жыў Манюшка, да з'яў проста жахлівых. Каб пазбавіць народ страшэннай нядолі і здзічэння, ён рыхтаваўся да гэтага паважна і ўрачыста, як мысляр, з адмовай нават ад уласнага шчасця да такой ступені, што, кахаючы пекную панну Прушынскую (магчыма, дачку Станіслава з не вельмі далёкай Лошыцы пад Мінскам) і маючы ад яе ўзаемнасць, ён асудзіў сябе на добраахвотны цэлібат, каб ніколі не мець спакусаў ад зручнага жыцця, як гэта паўсюль практыкавалася ў грамадстве, і не залежаць ад сям'і, каб была магчымасць прысвяціць увесь свой час і сродкі паляпшэнню побыту і асвеце сялян.

Дарэчы, ужо і да яго былі цудоўныя прыклады клопатаў аб паляпшэнні асветы і заможнасці народа, дадзеныя такімі паважанымі асобамі, як Станіслаў Малахоўскі з Конскіх[4], Яўхім і Адам Храптовічы[5] са Шчорсаў, Карп[6] з Янішкеляў на Жмудзі, Тадэвуш Рэйтан (пляменнік пасла[7]) са Слаўкавіч у бабруйскім Палессі і іншыя, аднак Манюшка сягаў глыбей, думкай і сэрцам бязмежна аддаючыся ідэі выхавання сялян грамадзянамі ў чыста хрысціянскім духу.

У самым росквіце распачатых цудоўных праектаў застаў нашага рэфарматара памятны 1812 год. Будучы не ў стане супрацьстаяць прыхільнасцям шляхецкага руху, асабліва калі ягоны старэйшы брат Ігнат стаў на чале сфарміраванага ім самім 21-га коннага палка, Дамінік Манюшка таксама ўступіў у 3-ці кавалерыйскі полк, адбыў усю напалеонаўскую кампанію і толькі ў 1816 годзе, атрымаўшы 22 лютага адстаўку ў чыне маёра, вярнуўся ў родныя мясціны, каб працягнуць задуманую справу, тым больш, што знаходжанне за мяжой дало яму магчымасць пільна агледзець вясковыя педагагічныя ўстановы і падрабязна даследаваць выхаваўчыя метады.

Перадусім, з мэтай зрабіць сваіх сялян людзьмі маральных прынцыпаў ён ліквідаваў цялесныя пакаранні і ўсталяваў вясковыя суды з пакараннямі, якія адпавядалі б годнасці чалавека (грашовыя кары, прымусовую працу, пакрыццё страт ад крыўдаў), з правам, аднак, апеляцый да памешчыка. Адначасова ён падзяліў увесь свой вялікі маёнтак на асобныя калоніі па 3 валокі зямлі разам з лесам і лугам і толькі адзін такі фальварачак пакінуў сабе дзеля ўласнага ўжытку, збіраючы, дарэчы, з сялян за надзелы дробны чынш, які прызначыў на духоўныя патрэбы ваколіцы, а менавіта — на ўзорныя школкі, заснаваныя каля 1824 года ў Пацічоле для дзяўчат паводле методыкі Песталоці і ў Роткаўшчыне для хлопцаў паводле методыкі Ланкастара. Абедзве гэтыя ўстановы былі абсталяваны паводле апошняга слова навукі, як, мабыць, ніколі дагэтуль і пасля ў краі; душою іх быў сам заснавальнік, які меў бацькоўскія зносіны не толькі з вучнямі, але і з іх сем'ямі. Пры школах былі маляўнічыя сады з плантацыямі лекавых раслін, пабудаваны шпіталік з аптэкай пад кіраўніцтвам доктара медыцыны Дамініка Пазняка (які потым працаваў у Мінску). У хлапцоўскай школе ў Роткаўшчыне знаходзілася хімічная лабараторыя пад кіраўніцтвам вучонага-натураліста і фармацэўта Сцібароўскага, які атрымаў прафесарскую адукацыю ў Парыжы (потым быў уладальнікам аптэкі ў Мінску). Пры Роткаўскай школе існавала таксама ўзорная бібліятэка, фізічны кабінет, калекцыя глобусаў і карт. Дзеці, якія толькі вучыліся грамаце, пісалі спачатку галінкамі ў садзе на пяску, а потым — пяром на паперы. У абедзвюх установах былі па 2 класы з досыць шырокай праграмай навучання, бо, апроч рэлігіі, выкладаліся арыфметыка, польская і руская мовы, геаметрыя з практычнай метралогіяй, а таксама гісторыя краю, прыродазнаўчыя навукі, апроч таго, гімнастыка, фельчарства, садоўніцтва, пчалярства, жывёлагадоўля, хатняя гаспадарка, ужытковыя рамёствы: сталярства, пляценне кошыкаў, лінавае майстэрства, калёсніцтва, рымарства і г. д. Падбор выкладчыкаў быў надзвычайна старанны, прычым сам Манюшка выкладаў у школе і на вандроўках з дзецьмі, разносячы навокал святло сваіх думак. Ягоным жаданнем было так выхаваць сваіх сялян, каб яны самастойна маглі даць сабе рады ў жыцці, таму ўся яго вёска цалкам змянілася ў дабрабыце і асвеце да непазнавальнасці, стаўшы быццам бы ўрадлівым аазісам пасярод жабрацкага атачэння. Людзі добрай волі на Літве яшчэ ў 1817—1818 гады, ідучы за прыкладам баронаў прыбалтыйскіх правінцый, узбуджаныя таксама дзейнасцю энергічнага таварыства віленскіх "шубраўцаў"[8], прыкладалі намаганні, каб урад адмяніў прыгон, аднак праект гэты не здзейсніўся, а надалей пашыраліся рэакцыя і ўціск. Насуперак гэтаму смела і настойліва выступалі шырока вядомыя "шубраўцы", на чале якіх былі самыя знакамітыя людзі ў краі, напрыклад, Андрэй Снядэцкі[9], а іх орган "Бруковэ вядомосьці", што выдаваўся ў 1816—1822 гадах, з'яўляецца бясцэннай крыніцай па гісторыі звычаяў сялянства і гаротнай долі народа; аднак не ўсё магло быць выпраўлена адразу, наадварот, зло нават перамагала. Таму няма нічога дзіўнага, што ў такі змрочны час Манюшка не меў міру са сваімі суседзямі, што з яго адкрыта смяяліся, прыпісвалі яму хлопаманію і дзівацтвы, і ніадкуль не меў ён спачування, апроч жменькі тых мысляроў, якія, не маючы сродкаў, не маглі дапамагчы рэфарматару. Тым часам установы Манюшкі сталі рыхтаваць сялян, адукаваных да такой ступені, што адным з самых здольных выкладчыкаў у Роткаўшчыне стаў селянін Андрэй Кляніцкі. Гэты шаноўны старац жыў яшчэ ў 1870-я гады і заставаўся сябрам усёй сям'і Манюшкаў; быў ён жывой хронікай грамадскай дзейнасці пана Дамініка, які праз сваю фенаменальную дабрачыннасць дзеля народа амаль пазбавіўся фартуны, часта цярпеў нястачу. Справы сталі настолькі вядомымі, што ўрэшце на іх звярнуў увагу ўрад, і па загаду цара Мікалая для агляду Манюшкавых установаў быў накіраваны генерал Строганаў.

Гэты візітатар, захоплены як школкамі, так і асобай самога іх заснавальніка, даў пра Манюшку найлепшыя водгукі. Аднак у 1838 годзе было вырашана школы закрыць, а ў 1840 годзе "Тыгоднік пецярбургскі" змясціў вопіс пацічольскага закладу, ухваляючы адначасова ўзнёслыя думкі заснавальніка. Цяжкае было жыццё Манюшкі, расчараванага і незразуметага ў сваіх надзеях. Хоць ён і займаў пасаду падкаморыя Ігуменскага павета, але шляхта не дайшла да разумення ягоных ідэй, не прызнавала нават ягоных заслуг у імя найвышэйшай ідэі.

Сродкі ягоныя пастулова змяншаліся, у 1840 годзе ён перажыў смерць найлепшай сваёй маці (5 траўня) у Роткаўшчыне, а у 1848 годзе, будучы часова ў Мінску падчас эпідэміі халеры, памёр зусім нечакана 24 жніўня і быў пахаваны зусім ціха за прадмесцем Камароўка, на халерных могілках, дзе яму ўдзячныя жыхары паклалі сціплы камень з кароткім, але красамоўным надпісам: "Ад удзячных падданых сялян". Гэты камень існуе і цяпер, але ён лёгка можа быць знішчаны, таму абавязак грамадства — захаваць памяць пра незвычайнага грамадзяніна праз узвядзенне яму помніка, адпаведнага ягоным заслугам, тым болей, што Манюшка, па словах сяброў, прарача і з пэўнай горыччу казаў: "Цяпер мяне не разумеюць, але прыйдзе час, калі захочуць адкапаць косці мае".

Толькі ў дэградуючым грамадстве такі чалавек, як Дамінік Манюшка, не дачакаўся вычарпальнай сваёй біяграфіі, бо нарысы Кучынскага[10], Валіцкага[11], або Жалігоўскага (Антона Савы)[12] у другой нявыдадзенай частцы Ярдану (якая засталася ў рукапісе), а таксама гэты кароткі жыццяпіс зусім не адпавядаюць славе сапраўды выдатнага мужа ў народзе. На заканчэнне падаю яшчэ некалькі заўваг. Паводле слоў жыхара Мінска Алаізія Кучынскага, які жыў у часы, бліжэйшыя да



дзейнасці Дамініка Манюшкі, апошні пісаў дзённікі свайго жыцця, якія павінны былі пасля смерці аўтара патрапіць да брата Ігната ў Падбярэжжа (Ігуменскі павет). Калі памёр Ігнат Манюшка, я адразу ж адправіўся ў пошукі на месца (1883), аднак мне не ўдалося атрымаць рукапіс ад сям'і, якая па мацярынскай лініі была ў стане бессвядомасці, хаця я лічу, што дзённік знаходзіцца там, і нехта больш шчаслівы за мяне здолее яго ўратаваць для нашчадкаў, а гэта мусіць быць крыніца бясцэннай каштоўнасці па гісторыі перадусім мясцовасці, дзе жыў і працаваў Манюшка, а таксама данапалеонаўскага часу. Што да лёсу гуманітарнай справы Манюшкі, выпадае зазначыць, што пасля ягонай смерці маёнтак перайшоў да братоў: Чэслаў (бацька кампазітара) і Аляксандр (вядомы меламан), хоць і былі гуманнымі людзьмі, аднак калі перасталі існаваць педагагічныя ўстановы Дамініка, юрыдычных дакументаў не было і сродкі, прызначаныя некалі на асвету народа, не маглі быць цяпер скарыстаныя. Вярнуліся ранейшыя прыгонніцкія парадкі. Пацічола праз пасаг Паўліны, дачкі Аляксандра Манюшкі, пераходзіць да роду Ваньковічаў. Роткаўшчына прадаецца за даўгі ў 1844 годзе і з таго часу змяніла ўжо некалькі ўладальнікаў. Адзіным напамінам пра цудоўную мінуўшчыну гэтай мясціны застаецца каменны абеліск з адпаведнымі надпісамі, узнесены на раздарожжы ў гонар Дамініка Манюшкі, ягоным братам Чэславам. Пра гэты помнік павінны клапаціцца перш за ўсё сваякі, каб ён не згінуў марна дзесьці ў падмурках якогась бровару ці дзе яшчэ.

Змешчаны тут партрэт з'яўляецца фотаздымкам цудоўнага партрэта пэндзля Валянціна Ваньковіча, які знаходзіцца ў руках адной з галін роду Ельскіх, параднёных з Манюшкамі; партрэт гэты тым цікавейшы, што ён зусім невядомы нашаму грамадству, хаця рысы такога вядомага мысляра і карыфея грамадства павінен добра ведаць кожны ягоны суайчыннік. Таму з падвоеным задавальненнем першы раз распаўсюджваем у гэтым месцы сапраўдны помнік.

**Аляксандр ЕЛЬСКІ.**
Прадмова, пераклад і заўвагі Ігара ГАТАЛЬСКАГА.

**НА ЗДЫМКАХ: адзін з двух камянёў з надпісам — рэшткі помніка Дамініку МАНЮШКУ ў Роткаўшчыне; рэшткі сядзібы.**

*ЗАЎВАГІ:*

*1. Сташыц Станіслаў (1755—1826) — польскі грамадскі дзеяч, ідэолаг Асветніцтва, публіцыст, вучоны. Ягоныя працы моцна паўплывалі на дзейнасць 4-гадовага Сойма РП (1788—1792).*

*2. Патоцкі Ігнат (1750—1809) — палітычны і грамадскі дзеяч Рэчы Паспалітай, адзін з аўтараў Канстытуцыі 3 траўня 1791 года і кіраўнікоў паўстання 1794 года.*

*3. Маецца на ўвазе дзед вядомага кампазітара Станіслава Манюшкі.*

*4. Малахоўскі Станіслаў (1736—1809) — дэпутат соймаў, маршалак 4-гадовага Сойма, маршалак кароннага трыбунала. Адзін з першых у РП адмяніў прыгонніцтва і заключыў кантракты з сялянамі.*

*5. Яўхім Літавор Храптовіч (1729—1812) — палітычны дзеяч ВКЛ, уладальнік маёнткаў Шчорсы і Вішнева, дзе замяніў паншчыну на чынш. Адам Храптовіч (1768—1844) — сын Яўхіма, удзельнік паўстання 1794 года.*

*6. Карп Ігнацій — уладальнік мястэчка Янішкелі на Жмудзі, дзе ў 1869 годзе фундаваў агранамічную школу.*

*7. Маецца на ўвазе пасол на Варшаўскі сойм 1773 года Тадэвуш Рэйтан (1742—1780), які пратэставаў супраць падзелаў РП.*

*8. "Шубраўцы" (літаральна — гультаі) — сябры ліберальна-асветніцкага таварыства ў Вільні (1817—1882), выступалі з прапагандай асветніцтва і гуманізму.*

*9. Снядэцкі Андрэй (1768—1838) — хімік, лекар, філосаф і асветнік. Выступаў супраць прыгону. Рэдагаваў "Бруковэ вядомосьці".*

*10. Кучынскі Алойзы — аўтар артыкула пра Д. Манюшку ў Вялікай Энцыклапедыі Оргельбранта.*

*11. Валіцкі Аляксандр (1826—1893) — удзельнік грамадскага руху на Беларусі ў 1860-я гады, аўтар успамінаў пра сучаснікаў.*

*12. Жалігоўскі Эдвард (псеўданім Антон Сава, 1816—1864) — паэт і рэвалюцыйны дзеяч. Ягоная вершаваная драма "Ярдан" скіравана супраць прыгонніцтва.*

# МУЗЕЙ РАСКАЗВАЕ ПРАЎДУ



Вельмі прыемна пахадзіць па залах музея, заглянуць у мінулыя стагоддзі, тым больш — такога адметнага, як Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны.

Наўрад ці ёсць больш высакароднная мэта ў чалавека, чым абарона сваёй Айчыны. А наша Беларусь, якая знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, заўсёды вабіла суседзяў. І заўсёды трэба было адстойваць сваю зямлю, свой народ, свае сем'і. У змаганні ж з захопнікамі без зброі не абыдзешся.

У зале "Старажытная зброя" экспанаты сведчаць пра мужнасць нашых продкаў, іх адвагу, патрыятызм. Экспанаты — самыя разнастайныя: стрэлы, кальчугі, дзіды, шаблі, алебарды, мушкеты, пісталеты... І партрэты вядомых ваяроў — Давыда Гарадзенскага, слуцкага князя Алелькавіча, карціна з адлюстраваннем батальных сцэн. І як не ганарыцца імі, добрымі і слаўнымі абаронцамі! Яны далі нам узор вернасці Радзіме.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# МАКСІМУМ ШЧЫРАСЦІ ПРЫ МАКСІМУМЕ АКТЫЎНАСЦІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

прышчапіў артыстам унутраную творчую дысцыпліну і пачуццё стылю. Ён лічыў, што артыст-ляленчік не можа адкрыта выплёскваць свае эмоцыі, бо побач лялька, і ўмоўнасць суіснавання яе з артыстам павінна захоўвацца. Усе артысты ведалі, што не трэба імкнуцца пераіграць ляльку, ведалі, што лялечнае мастацтва — гэта не тэатр перажывання, а тэатр прадстаўлення і дзейства. У яго спектаклях акцёры заўсёды імкнуліся сцвярджаць дабрыню і шчырасць, таму што майстра ніколі не цярпеў няпраўды і фальшу. За 30 год працы Ляляўскага Дзяржаўны тэатр лялек стаў высокапрафесійным тэатрам, які займаў адно з вядучых месцаў у былым Савецкім Саюзе, і ў гэтым самая галоўная заслуга Анатоля Аляксандравіча. Пры ім зацвердзілася паўнаважныя мастацкія крытэрыі лялечнага спектакля. Усё гэта каштавала вялікіх цяжкасцей і намаганняў. Шмат што прыходзілася мяняць арганізацыйна, структурна. Трэба было шукаць, збіраць, выхоўваць новых артыстаў, мастакоў, рэжысёраў. Ляляўскі заснаваў прафесійную лялечную школу па падрыхтоўцы артыстаў-лялечнікаў пры Беларускай акадэміі мастацтваў. Многія з яго выхаванцаў папоўнілі трупу Дзяржаўнага тэатра лялек, а таксама лялечныя тэатры беларускай правінцыі: Людміла Немагай, Валянціна Белаш, Зоя Гуцеева, Яна Агеенка, Уладзімір Варанкоў, Аляксандр Гаршкоў, Алег Сцепанюк, Анатоль Друскі і многія іншыя. А Аляксандр Казакоў атрымаў ганаровае званне заслужанага артыста рэспублікі. Пад яго кіраўніцтвам працавалі і працуюць зараз такія волаты беларускай лялечнай сцэны, як Аляўціна Іванова, Нэля Пахомава, Валянціна Пражэева, Лідзія Мікула, заслужаныя артысты Беларусі Уладзіслаў Уласаў, Уладзімір Грамовіч, Юры Сарычаў і многія іншыя, хто з вялікім задавальненнем і натхненнем стварыў незабыўныя, яркія, запамінальныя сцэнічныя характары ў спектаклях Анатоля Аляксандравіча.

Майстар стварыў трупу, якую называлі адной з лепшых у Савецкім Саюзе. Высокая візуальная культура абапіралася на псіхалагічную дакладнасць у распрацоўцы роляў. Анатоль Аляксандравіч любіў паўтараць адну цікавую думку Меерхольда: "Дзеля таго, каб не ператварыцца ў рамесніка, трэба заўсёды трэніраваць сваю фантазію". Таму Ляляўскі з вялікім натхненнем звяртаўся да новых думак і ідэй, якія маглі б стаць штуршком да будучых спектакляў. Ад яго чакалі звычайнага, але ён нечакана ставіў "Жаваранка", "Трох мушкецёраў"...

Ляляўскі выхаваў таленавітага сына Аляксея, зараз мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага тэатра лялек, які працягвае і развівае творчыя традыцыі, што заклаў яго бацька.

Народны артыст Беларусі Анатоль Ляляўскі — сапраўдны магістр лялечнага мастацтва. Яго дэвіз быў такі: "Максімум шчырасці пры максімуме актыўнасці".

У верасні Дзяржаўны тэатр лялек адсвяткуе 60-годдзе. Дух вялікага Ляляўскага ізноў завітае сюды...

**Аляксей ШАЛАХОЎСКІ.**

# МАЕ ЎСПАМІНЫ ПРА НАТАЛЬЛЮ АРСЕНЬНЕВУ-КУШАЛЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

цясьнейшая сувязь замацаваліся. Бывала Паэтка ў нас на розных імпрэзах. У часе сьвяткаваньня тысячагодьдзя дзяржаўнасьці Беларусі ў 1980 годзе яна афіцыйна адкрыла выстаўку, што была наладжана з нагоды сьвята.

Былі шчасьлівыя часіны й тады, калі Натальля Арсеньнева з сваёй унучкай Натай езьдзіла з намі на летнія канікулы на раку Атаву. Там на лодцы на неабсяжным прасторы вады, "пад сінім небам" цешыліся мы жыцьцём і сьветам, чыстым, як званок, паветрам, а на захадзе сонца разам з ім усьлаўлялі Усявышняга. Там злосныя хвалямі бушавалі ня раз вецер, гроза кідаў з боку набак лодку. А ў цёмнай глыбіні ракі жыравалі на меншую рыбку шчупакі. А шчупакоў прынаджалі на кручок лавілі рыбакі.

Там над ракой Атавай хадзілі мы з Паэткай па лясох у грыбы. У тым-жа развьітальным вершы яна кажа Вінцуку:

**Любіў і Ты, як я, — блукаць па**
**пералесках,**
**спыніцца ў гушчары, скамечыць мох**
**мяккі,**
**яшчэ й яшчэ чытаць ад крыскі й**
**да крыскі**
**баляды, што дубы зьбіралі праз вякі...**
**. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .**
**Мой сябра дарагі!**
**Нялёгкімі гадамі**
**нам давялося жыць,**
**відаць, наш Кон такі.**
**Ды мы брылі. Ступой**
**ішоў і Кон з намі,**
**ды запыніў Цябе кіўком рукі.**
**Стаю... ўжо адна...**

Ды пакуль гэта сталася, Паэтка на працягу 1987-га і 88-га гадоў цесна супрацоўнічала з намі ў пабудове Беларускага памятнага Крыжа ў канадскай прошчы паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў у Мідлэнд Антарыё. Яна была прысутнай 5 верасьня 1988 года на асьвячэньні Крыжа й апела падзею адзначэньня намі тысячагодьдзя хрысьціянства ў Беларусі вершам

**КРЫЖ**

**Як вокам ськінуць —**
**сьцяг пушчаў сініх...**
**За пушчай далеч, яшчэ сіней...**
**А тут на ўзвышшы, стаіць над намі**
**наш Крыж прыгожы, маўляў у сьне...**

**Шмат чулі сьвету крыжы маленьняў,**
**шмат просьбаў, выклінаных бядой.**
**Прыйшлі й мы ў Прошчу сагнуць**
**каленьні,**
**сьвяціць ня нечы ўжо крыж, а свой.**

**"Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай**
**краіну нашу", маліўся хор,**
**І ўторыў натаўп, і сьпелай нівай**
**хісіўся ветру на перакор.**

**А вецяр дужаў, кудысь аблокі**
**зусім павосеньску ўжо плылі.**
**Маўчала прошча, унізе-ж далёка**
**сінелі зарасьнікі й палі.**

**— "Магутны Божа", бяз слоў прасілі**
**мы ўсе, а рукі ўзьняўшы ўзвыш,**
**стаяў нязрушна на ўзгорку сьхіле**
**ён, гэткі родны ўжо сэрцу Крыж.**

**Тут — дождж імгненна каменьне**
**сьпляміў,**
**рассыпаў кроплі ў траве, у лісьці...**
**Няйначай —**
**і Нехта дзесь там, над намі,**
**наш Крыж вадою сьвятой хрысьціў.**

*Прошча, 5 верасьня 1988 года.*

За год прыйшоў час на першае паломніцтва да Беларускага Крыжа. Прыехала з Рочэстар Натальля Арсеньнева, але ня стала ўжо ейнага сябры, кіраўніка пабудовы Беларускага Крыжа, Вінцука Жук-Грышкевіча. 14 лютага, 1989 года, "Кон запыніў Яго кіўком рукі". На гэтым скончылася сяброўства Натальлі з Вінцуком, а ўзмоцнілася яно між Натальляй Арсеньневай і мною. Ужо разам зь Ёю ў паразуменьні з айцом Аляксандрам Надсонам ды Дырэктарам Прошчы а. Джэймс Фарэл, таксама ўжо нябожчыкам, мы зрыхтавалі для Прошчы ў Мідлянд беларускія малітоўныя карткі. Яна зрэдагавала ў цяперашняй беларускай мове малітву Францішка Скарыны з "Малой падарожнай кніжкі", Вільня, 1522, і зрабіла пераклад малітвы да паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў з ангельскай на беларускую мову. Кожны год у чэрвені перад паломніцтвам да Крыжа прыязджала да мяне ў Бэры на тыдзень Натальля Арсеньнева рыхтавацца да і быць удзельнікам паломніцтва. Прыязджаў праводзіць паломніцтва й айцец Аляксандр Надсон зь Лондана, Англіі. Кожнай раніцы ў нашай сталовай перад сьвятымі абразамі Укрыжаваньня і сьвятой Еўфрасіньні Полацкай адпраўляў ён літургію.

Ішлі гады. І з году ў год з тым самым энтузіязмам і запалам прыязджала Натальля ў паломніцтвы: другое, трэцяе, чацьвертае, пятае, і здавалася, што так яно будзе заўсёды. Але гэта толькі здавалася. Прыйшоў час, і Натальля кажа: не магу прыехаць. Нешта не здаровіцца. Нічога, Наталка, — кажу, — на наступны год прыедзеш! Просіць Натальля перадаць усім прывітаньні і шкадаваньні, што не можа быць разам з намі. Прыйшоў 1996 год, набліжаецца важнае 8-е паломніцтва. Важнае тым, што ў час яго адбудзецца высьвячэньне помніка памяці ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі. У тэлефонным гутарцы гаворым аб гэтым з Натальляй Арсеньневай. Ізноў яна кажа — мусіць не змагу прыехаць... Ізноў яна перадае паломнікам свае прывітаньні, і шкадаваньні, што ня можа быць разам з намі. Паломнікі выслалі Ёй свае прывітаньні на падпісанай усімі паштоўцы беларускага Крыжа. Пасьля, калі ў тэлефоннай гутарцы я расказвала пра паломніцтва, пра тое, што мы яе ўспаміналі, Яна мне кажа: "Трэба было табе прачытаць верш "Крыж"...

Таму я ведала, што ў час паховінаў Паэткі абавязкова трэба было прачытаць ейны верш, запяяць "Магутны Божа", што мы і зрабілі. І веру, што ці то Сьвяты Дух, ці дух Натальлі Арсеньневай натхніў Сьвятара запрапанаваць мне прачытаць у касьцёле верш Паэткі, што я з удзячнасьцю зрабіла. Таму я й тут цытую ейныя вершы. Ведаю, што яна гэта жадала б.

Прыйшла зіма й вясна 1997 года. Звоніць унучка Паэткі і кажа: "Благая вестка. Баба ўпала, зламала бядро й руку. Цяпер яна ў шпіталі". Падала ўнучка Ната нумар тэлефона, куды званіць да бабулі. Падумала я сабе: палом бядра дабра не варожыць. Вінцук на чацьверты дзень пасьля такой прыгоды памёр. Сэрца ня вытрывала. Але Натальля Арсеньнева мела моцнае сэрца й, як здавалася, жалезнае здароўе. Хутка пасьля аперацыі звоніць ізноў унучка і кажа: "Добрая вестка. Баба ўжо магла стаць на свае ногі й зрабіла некалькі крокаў. За тыдзень, лекар казаў, пойдзе дамоў". Звоніла я ў шпіталь. Натальля гаварыла пра сваё гора і цяжкасьці, але была добрае надзеі. Вярнулася дамоў й памаленьку стала пры дапамозе апірышча хадзіць. А думкі ейныя ўсьцяж кружылі вакол зьяўленьня ў "Запісах" ейнага перакладу на беларускую мову паэмы Гусоўскага "Песьня пра зубра" і выхаду з друку ў Менску кнігі ейнай творчасьці. Ды, як то бывае, бяда паганяе бяду. Да ўсяго гора Паэтка траціць зрок. Шукае ў лекараў дапамогі, а тыя нічога добрага не варожаць. Бядуе мне па тэлефоне, што з вачыма няма папраўы: "Няўжо яно так і застанецца, няўжо я зусім асьлепну?!." Ды ўсё ня траціць надзеі. І думкі сабе не дапускае, што можа гэта прыходзяць ёй канцы... Церпіць болі ў паломах і цемнату ў вачах. "Але фізычныя болі я магу пераносіць, — кажа мне, — найцяжэй з духоўнымі. Чуюся такая сама й пакінутая прыяцелямі й сябрамі. Здаецца мне, што я адна на ўсім цапоўскім сьвеце. Ніхто не пазвоніць... Што чуваць зь Нью-Ёрку?"

— У Нью-Ёрку амаль нікога не засталося, кажу ёй, шмат хто з тваіх сяброў і колішніх супрацоўнікаў адыйшоў ужо на той сьвет. Кожны раз, як канчаем гутарку, яна дзякуе, што яе не забываю, і просіць далей не забывацца... Званіла я да яе кожную суботу, а пасьля і часьцей.

Прыходзяць лісты зь Беларусі, ня можа на іх даць адказу. Просіць мяне напісаць зацемку ў "Беларусе" пра ейную трагічную сытуацыю. Зацемка мела водгук. Галена Скурат з Канады піша да мяне й цёплы ліст да Паэткі, запэўніваe яе аб нашай да яе пашане й любові.

У цёплыя сонечныя дні захапляецца Натальля: "У нас сёньня такі цудоўны дзень! На душы лягчэй, толькі вось нічога не бачу. Бачу толькі абрысы стала, крэсла і што нехта стаіць. Болей нічога. Па галаве ходзяць усцяж фразы, рыфмы. ...Пісала б, каб бачыла..." Пазьней стала наракаць на вялікае аспабленьне і што нічога есьці ня можа.

Ізноў візыта ў лекара, ізноў дасьледаваньні й ізноў благая навіна. 25 чэрвеня лекары зрабілі дыягнозу рака, які ўжо разышоўся па целе. Засталося два, тры месяцы жыцьця, кажуць.

"Што рабіць?! — пытаецца Натальля ў мяне. — Засталося мне толькі тры месяцы жыцьця!" Кажу ёй: "Дзякуй Богу за такое доўгае і творчае жыцьцё. Ты пакінеш па сабе не абы які сьлед. Усё тое, што Ты напісала, застанецца назаўсёды. Цешся і дзякуй Богу за гэта!" Яна прызнае, што пражыла амаль 95 гадоў, але гэта ніякае для яе апраўданьне, што за тры месяцы павінна памерці. Не, хоць цела слабее, ды дух дамагаецца жыцьця.

Цяпер я старалася тэлефанаваць да яе часьцей. Паэтка стала моцна слабець, і гутарыць Ёй зраблася цяжка. Пазваніла я неяк, тэлефон узяў сын. Пытаю, ці магу гаварыць з ягонай мамай. Кажа: "На жаль, не, мама надта слабая. Ня зможа ўстаць падыйсьці да тэлефона."

— Перадайце ёй, калі ласка, ад мяне прывітаньні й маю для яе любоў, — кажу.

— Пачакайце! — кажа Уладзімір. Па нейкім часе, калі ўдалося ім там перанесьці тэлефон да ложка, слабенькім голасам адазвалася Натальля. З цяжкасьцяй вымаўляла слова за словам. "Не забывай!.." — былі яе апошнія словы, ейная апошняя просьба...

— Цябе, Наталька, я моцна, моцна люблю й ніколі, ніколі Цябе не забуду, — былі мае апошнія словы да Яе жывой. Я ведала, што гэтым я абяцала ёй прыехаць на пахованьне. Хто ведае, мо й яна пра гэта і прасіла?.. Пазваніла я праз дзень ці два. Сын сказаў, што мама ў шпіталі, у коме — непрытомная. А ў пятніцу 25 ліпеня, роўна месяц пасьля злавеснае дыягнозы, пазваніў Уладзімір, што ў 5 гадзін раніцы памерла мама. Вечны ёй супакой!

Абяцала я спадару Кушалю паведаміць беларускае грамадзтва Канады й перадаць вестку ў ЗША. Пазваніла ў Лондан, айцу А. Надсону, які адслужыў паніхіду. Замовіла кветкі ад Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады, а тым самым і ад сябе, і на другі дзень, у суботу, выехала ў Таронта, а стуль у нядзелю зранічкі накіравалася аўтобусам у Рочэстар. А другой гадзіне дня была я ўжо ў пахавальным доме, дзе мяне кветак у дамавіне спачывала цела нашае слаўнае Паэткі — Натальлі Арсеньневай. На твары яе быў супакой і дастойнасьць. Над целам яе прачытала я паніхіду (пераклад на беларускую мову айца А. Надсона). Гэтак калісь дома ў Пружанах, у Беларусі, суседзі зьбіраліся чытаць беспераныпна над целам нябожчыка малітвы. Малілася я за Яе й дзякавала Богу, што дазволіў мне ў гэты апошні час быць зь Ёю — нашай паэткай Натальляй Арсеньневай. І было ў мяне такое адчуваньне, што моцны дух Натальлі з намі, кіруе намі і кажа нам: "Цяпер, пазьбыўшыся, зьнішчанага жыцьцём й хваробай цела, я вольная й магутная, як калі!"

**Раіса ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ.**
Канада.

*У матэрыяле захаваны стыль і арфаграфія арыгінала.*

СВЯТА ЛЯ ПОМНІКА ЯКУБУ КОЛАСУ

# «ШЧАСЛІВАГА ВЫРАЮ Ў КРАІНУ ВЕДАЎ!..»



Першага верасня па ініцыятыве Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Я. Коласа і пры дапамозе адміністрацыі Савецкага раёна горада Мінска адбылося свята, прысвечанае Дню ведаў — пачатку навучальнага года. Павіншаваць школьнікаў, навучэнцаў і студэнтаў на плошчу Я. Коласа да помніка вялікаму песняру прыйшлі нашы добра вядомыя ўсім дзеячы беларускай культуры: дырэктар музея Я. Коласа Зінаіда Камароўская, Іван Курбека, паэты Сяргей Грахоўскі, Мікола Аўрамчык, Артур Вольскі, Раіса Баравікова, празаік Генрых Далідовіч, а таксама сын Я. Коласа Міхась Міцкевіч, унучка Марыя Міцкевіч і земляк паэта са Стаўбцоўшчыны.

Свята адкрыла і вяла Зінаіда Камароўская. Паэт Сяргей Грахоўскі закрануў праблему культуры беларускага народа. Ён зазначыў, што "родная мова — гэта першая і галоўная крыніца, праз якую мы пазнаём жыццё", падкрэсліў, што адной з багатых моў свету з'яўляецца наша, беларуская мова. З пажаданнем "удалага адлёту ў вырай ведаў" ён саступіў месца вядомаму дзіцячаму паэту Артуру Вольскаму.

Добра знаёмы з сям'ёй Міцкевіча, А. Вольскі прыгадаў свае сустрэчы з Я. Коласам. Ён успомніў, як разам з вялікім паэтам наглядаў за адлётам журавоў у вёсцы Карапішчавічы, як сумна было ў той момант, бо скончылася лета, і як было цёпла і радасна: пачаўся яшчэ адзін навучальны год.

Шмат цёплых слоў у адрас школьнікаў, студэнтаў было сказана галоўным рэдактарам часопіса "Маладосць" Генрыхам Далідовічам. У сваёй прамове ён закрануў пытанне сувязі культурнай спадчыны Беларусі з культурамі іншых краін. Г. Далідовіч выказаў спадзяванне, што новае пакаленне працягне развіццё нашай дзяржавы, яе самастойнасці, зможа даць таленавітых літаратараў, артыстаў, мастакоў, якія пацвердзяць, што Беларусь па праву займае "свой пачэсны пасад між народамі".

З хвалюючымі, працікнёнымі словамі да дзяцей і настаўнікаў звярталіся Раіса Баравікова, сын Я. Коласа Міхась Міцкевіч і ўнучка паэта Марыя Міцкевіч. Яны падкрэслівалі каштоўнасць беларускай мовы, казалі, што "праз любоў да роднага слова народ ідзе да адраджэння Беларусі, яе культуры".

Напрыканцы свята ўсіх прысутных парадавалі сваімі песнямі фальклорны ансамбль "Коласавы земляки" з вёскі Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна, валожынскі раённы калектыў народнага танца, ансамбль бальнага танца "Венскі вальс" і калектыў эстраднага танца. Свае спробы пяра прадэманстравалі вучні СШ № 91 і СШ № 53 г. Мінска Жэня і Саша Пашкевічы, Наталля Волкава, Таня Гасак.

Канструктар Мінскага завода колавых цягачоў Іосіф Гарэцкі прадэкламаваў урывак з "Новай зямлі" Коласа "Дзядзька-кухар". І столькі душы было ўкладзена ў яго выступленне, столькі пачуцця, што кожны з прысутных зноў і зноў пераканаўся, што самая мудрая і прыгожая — гэта народная мова і фальклор.

Імжыць дожджык... Восень пакрысе губляе сваю залатую сукенку... А ў школах зноў звіняць званочкі, адкрываючы для першакласнікаў іх першы навучальны год, цікавую і захапляючую дарогу ў краіну ведаў.

**Алена ПЯКАРСКАЯ,**
**навучэнка Мінскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа.**

# МУЗЕЙ РАСКАЗВАЕ ПРАЎДУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

Не толькі чужынцы, але і свая, беларуская брыда да сёння стараецца нажыцца на гандлі гістарычнай памяццю народа. Хапае тых, хто імкнецца ўкрасці, прадаць, вывезці каштоўнасці за мяжу. Гэта асабліва разумееш у зале, дзе экспануюцца рэчы, якія злыдні хацелі вывезці ў іншыя краіны і якія мытнікі ў іх канфіскавалі.

А іх сотні: карціны, абразы, вазы, посуд, гадзіннікі, кнігі, падсвечнікі, дэкаратыўныя вырабы, вырабы з золата, серабра... Сорамна за тых, хто хацеў іх украсці. А радуе, што ёсць людзі, якія вярнулі беларусам беларускае.

Памяць пра мінулае сваёй зямлі, яе гісторыю ўзбагачае, узвышае чалавека духоўна, памагае мацней любіць яе сённяшнюю. Экспанаты музея даюць шырокія веды пра Гродзеншчыну. На старажытнай зямлі засталося шмат памятак пра мінулае жыццё людзей, іх гаспадарку, культуру. У басейне ракі Рось знойдзены археалагічныя помнікі VIII—V тысячагоддзяў да нашай эры. Абследаваны старажытныя шахты для здабычы крэменю ў Ваўкавыскім раёне. Шмат археалагічных помнікаў выяўлена пры раскопках Індурскага гарадзішча, у Лідскім замку, у Слоніме, Навагрудку, у Старым замку ў Гродне... Падчас навуковых экспедыцый сабраны матэрыялы, якія папоўнілі калекцыі нумізматыкі, этнаграфіі, народнага мастацтва. Яны распавядаюць наведвальнікам музея пра майстэрства жыхароў краю, іх лад жыцця, побыт, гандаль, культуру.

Вялікую цікавасць выклікае аддзел рэдкай кнігі і стадрукаў. Вось толькі асноўныя калекцыі: палеатыпаў, календароў, слоўнікаў, геаграфічных мапаў, выданняў гродзенскіх друкарняў, італьянскай і французскай літаратуры. Ёсць рукапісныя акты XV—XVI стагоддзяў, XVIII, XIX, пачатку XX стагоддзяў, калекцыі фамільных архіваў, перыядычнага друку 1800—1917 гадоў, рукапісы пісьменнікаў. Міжволі прыгадваюцца словы Францішка Скарыны: "Напісанае застаецца". А навукоўцы, даследчыкі маюць магчымасць пазнаёміцца з даўнімі выданнямі ў арыгінале.

Музей пастаянна папаўняецца экспанатамі. Зараз іх 150 тысяч. Яму перадалі Новы замак. Так што ён размяшчаецца ў двух каралеўскіх палацах — Старым (XVI стагоддзе) і Новым (XVIII стагоддзе). Гэта дазволіла адкрыць новыя залы, зрабіць больш разнастайнымі калекцыі. Цяпер у Старым замку вядуцца работы па карэнай рэканструкцыі аддзела прыроды.

У музеі шмат энтузіястаў сваёй справы. Многія супрацоўнікі аддалі яму па 15—20 і больш гадоў. Гэта галоўная захавальніца фондаў Святлана Палхоўская, загадчыцы аддзелаў Ванда Шоцік, Людміла Таран, Надзея Труханович, Галіна Бурак, Яўгенія Мазан, археолаг Рыгор Акінчыц і іншыя. А ўзначальваюць калектыў дырэктар Алена Салаўёва і яе намесніца Валянціна Царук.

Удасканальваюцца формы работы. Наладжваюцца выставы, у тым ліку выязныя, семінары, канферэнцыі, выдаецца літаратура, аказваецца дапамога раённым музеям і г. д.

— Яшчэ не так даўно, — расказвае Алена Андрэеўна, — і наш музей быў падобны на іншыя музеі таго часу тэндэнцыйнасцю, падбoram экспанатаў, успаўненнем існуючага ладу. І вось ужо гадоў сем трымаем курс на адлюстраванне сапраўднай гісторыі, праўдзівы паказ мінулага нашага краю, нашага народа. Гродзеншчына вельмі багатая на даўніну — археалагічную, гістарычную, навуковую, гаспадарчую, літаратурную, багатая на выдатных людзей. Пра ўсё гэта нам хочацца расказаць нашым наведвальнікам, а іх штогод бывае 130 тысяч.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**







**НА ЗДЫМКАХ: у зале вырабаў з каштоўнага металу; "Пагоня" — работа мастака Уладзіміра ЦЕРАБУНА; экспанаты "выйшлі" пагрэцца на сонейка.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# «З ДАЗВОЛУ КАРАЛЯ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ»

Два мужыкі верхам на адным кані выязджаюць з горада. Насустрач ім едзе шляхціц, які пытаецца:

— А колькі там гадзін было на ратушным гадзінніку, ці не скажаце?

— Ды і не ведаю, пане, — адказаў той, што сядзеў спераду, — няхай скажа мой сусед, бо ён выехаў пазней.

У агарод да мужыка ўлезла свіння аднаго шляхціца. Мужык схапіў колі ўрэзаў ёй па рыле, а тая вазьмі ды здохні. Шляхціц, канешне, у суд. Пазвалі мужыка. Адным словам, у кожнага свая праўда, так што да ісціны суддзя ўсё ніяк не мог дайсці. Яшчэ раз пытаецца ён селяніна, як жа гэта ўсё здарылася. "Няўжо не зразумела? — паясняе той. — Ну, прабачце мне, увіце, што пан суддзя быў той самай свіннёй і залез у мой агарод. Што ж заставалася рабіць? Казытаць і гладзіць пана свінню... не, пана суддзю? Кожны на маім месцы даў бы па рыле... пана суддзі, пасля чаго пан суддзя, канешне б, сканаў".

У аднаго селяніна здохла карова, а крыху пазней памерла жонка. Сядзіць ён пасля ўсяго гэтага ў роспачы, не ведае, як жыць далей. Сталі падыходзіць да яго суседзі і суцяшаць.

— Ці ж у нас дзяўчат бракуе, што застанешся ўдаўцом адзінокім? — кажа адзін. — У Пятра тры дачкі, выбірай, якую хочаш. Васілёва сястра на выданні.

— Мо, хочаш, удаву табе пашукаем, — прапануе другі.

Той слухаў, слухаў ды і адзываецца:

— Вельмі вам удзячны за вашы парады. Але бачу, лепей страціць жонку, чым карову. Бо на месца нябожчыцы падсоўваеце мне капу дзяўчат, а вось каб хоць адзін прапанаваў жывёліну!

**З кнігі Л. КАЗЛОВА.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтара, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 1584.
Падпісана да друку 14.09.1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.